ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 48 (1582) | Аўторак, 20 чэрвеня 1961 года | Цана 4 кап.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ аб Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

**19 чэрвеня 1961 года адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Пленум ЦК КПСС заслухаў і абмеркаваў даклад Першага сакратара ЦК КПСС таварыша Хрушчова М. С. «Аб праекце Праграмы КПСС» і даклад сакратара ЦК КПСС таварыша Казлова Ф. Р. «Аб праекце Статута КПСС».**

**У рабоце Пленума прынялі ўдзел члены ЦК КПСС, кандыдаты ў члены ЦК КПСС, першыя сакратары ЦК Кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў партыі, адказныя работнікі ЦК КПСС і саюзных органаў.**

**Пленум прыняў адпаведныя пастановы, якія сёння публікуюцца.**

## АБ ПРАЕКЦЕ ПРАГРАМЫ КПСС

**Пастанова Пленума ЦК КПСС па дакладу таварыша ХРУШЧОВА М. С., прынятая 19 чэрвеня 1961 года**

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад Першага сакратара ЦК КПСС таварыша Хрушчова М. С. «Аб праекце Праграмы КПСС», Пленум ЦК КПСС аднадушна адабрае прадстаўлены праграмнай камісіяй і разгледжаны Прэзідыумам ЦК КПСС праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Апублікаваць праект Праграмы КПСС у друку 30 ліпеня 1961 года для ўсеагульнага азнаямлення і абмеркавання членамі і кандыдатамі ў члены КПСС і ўсімі працоўнымі.

Абавязаць ЦК Кампартый саюзных рэспублік, абкомы, крайкомы, гаркомы і райкомы партыі арганізаваць шырокае абмеркаванне праекта Праграмы КПСС у пярвічных партыйных арганізацыях, на раённых, гарадскіх, абласных, краявых канферэнцыях і з'ездах Кампартый саюзных рэспублік.

## АБ ПРАЕКЦЕ СТАТУТА КПСС

**Пастанова Пленума ЦК КПСС па дакладу таварыша КАЗЛОВА Ф. Р., прынятая 19 чэрвеня 1961 года**

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад сакратара ЦК КПСС тав. Казлова Ф. Р. «Аб праекце Статута КПСС», Пленум ЦК КПСС пастанаўляе:

1. Адобрыць у асноўным праект Статута КПСС, прадстаўлены Прэзідыумам ЦК КПСС на разгляд Пленума ЦК КПСС.

2. Апублікаваць праект Статута КПСС у друку 20 жніўня 1961 г. для ўсеагульнага азнаямлення і абмеркавання членамі і кандыдатамі ў члены КПСС і ўсімі працоўнымі СССР.

3. Абавязаць ЦК Кампартый саюзных рэспублік, абкомы, крайкомы, гаркомы і райкомы партыі арганізаваць шырокае абмеркаванне праекта Статута КПСС ва ўсіх пярвічных партыйных арганізацыях, на раённых, гарадскіх, абласных, краявых канферэнцыях і з'ездах Кампартый саюзных рэспублік.

# У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета СССР

**За вялікія поспехі, дасягнутыя ў развіцці ракетнай прамысловасці, навукі і тэхнікі, паспяховае ажыццяўленне першага ў свеце палёту савецкага чалавека ў касмічную прастору на караблі-спадарожніку «Усход» Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў другім залатым медалем «Серп і Молат» 7 выдатных вучоных і канструктараў—Герояў Сацыялістычнай Працы, прысвоіў званне Героя Сацыялістычнай Працы 95 вядучым канструктарам, кіруючым работнікам, вучоным і рабочым, узнагародзіў ордэнамі і медалямі СССР 6.924 рабочых, канструктараў, вучоных, кіруючых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, а таксама ўзнагародзіў ордэнамі СССР рад навукова-даследчых інстытутаў, канструктарскіх бюро і заводаў.**

**Ордэнам Леніна ўзнагароджана 478 чалавек, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга — 1.218, ордэнам Чырвонай Зоркі — 256, ордэнам «Знак Пашаны» — 1.789 і медалямі — 3.183 чалавекі.**

# *УКАЗ*

## *Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР*

### Аб узнагароджанні Першага сакратара ЦК КПСС і Старшыні Савета Міністраў СССР двойчы Героя Сацыялістычнай Працы таварыша ХРУШЧОВА М. С. ордэнам Леніна і трэцім залатым медалем «Серп і Молат»

**Адзначаючы выдатныя заслугі Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта КПСС і Старшыні Савета Міністраў СССР таварыша Хрушчова М. С. у кіраўніцтве па стварэнню і развіццю ракетнай прамысловасці, навукі і тэхнікі і паспяховым ажыццяўленні першага ў свеце касмічнага палёту савецкага чалавека на караблі-спадарожніку «Усход», які адкрыў новую эру ў асваенні космасу, узнагародзіць таварыша ХРУШЧОВА М. С. ордэнам ЛЕНІНА і трэцім залатым медалем «СЕРП І МОЛАТ».**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. БРЭЖНЕЎ.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль, 17 чэрвеня 1961 г.

# *УРУЧЭННЕ ВЫСОКІХ УЗНАГАРОД*

**19 чэрвеня ў Крамлі Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжнеў уручыў ордэн Леніна, трэці залаты медаль «Серп і Молат» Героя Сацыялістычнай Працы і Грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Першаму сакратару Цэнтральнага Камітэта КПСС і Старшыні Савета Міністраў СССР таварышу Хрушчову Мікіце Сяргеевічу, удастоенаму гэтай высокай узнагароды за выдатныя заслугі ў кіраўніцтве па стварэнню і развіццю ракетнай прамысловасці, навукі і тэхнікі і паспяховым ажыццяўленні першага ў свеце касмічнага палёту савецкага чалавека на караблі-спадарожніку «Усход», які адкрыў новую эру ў асваенні космасу.**

**Уручаючы ордэн Леніна і залаты медаль «Серп і Молат», Л. І. Брэжнеў ад усяго сэрца павіншаваў натхніцеля і арганізатара работ па асваенню космасу таварыша Мікіту Сяргеевіча Хрушчова з заслужанай узнагародай і ад усёй душы пажадаў яму моцнага здароўя і далейшых поспехаў у самаадданай барацьбе за росквіт нашай Радзімы, за мір і дружбу паміж народамі.**

**Л. І. Брэжнеў уручыў узнагароды Героям Сацыялістычнай Працы за выдатныя заслугі ў развіцці ракетнай тэхнікі і забеспячэнні паспяховага палёту савецкага чалавека ў касмічную прастору на караблі-спадарожніку «Усход». Ордэн Леніна, залаты медаль «Серп і Молат» і Грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР уручаны сакратару ЦК КПСС Ф. Р. Казлову, другі залаты медаль «Серп і Молат» і Грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР—намесніку Старшыні Савета Міністраў СССР Д. Ф. Усцінаву, другі залаты медаль «Серп і Молат» і Грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР—прэзідэнту Акадэміі навук М. В. Келдышу.**

**Ордэны Леніна, залатыя медалі «Серп і Молат» і Граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР уручаны таксама намесніку Старшыні Савета Міністраў СССР К. Н. Рудневу, міністру СССР В. Д. Калмыкову.**

**Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Д. С. Каротчанка ўручыў ордэн Леніна, залаты медаль «Серп і Молат» і Грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за выдатныя заслугі ў развіцці ракетнай тэхнікі і забеспячэнні паспяховага палёту савецкага чалавека ў касмічную прастору на караблі-спадарожніку «Усход» Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжневу.**

**Таварышы М. С. Хрушчоў, Ф. Р. Казлоў, Л. І. Брэжнеў, Д. Ф. Усцінаў, М. В. Келдыш, К. Н. Руднеў і В. Д. Калмыкоў горача падзякавалі партыю і ўрад за высокія ўзнагароды.**

**Таварышы Л. І. Брэжнеў і Д. С. Каротчанка цёпла і з вялікай сардэчнасцю павіншавалі Герояў Сацыялістычнай Працы з заслужанай узнагародай і ад душы пажадалі ім добрага здароўя і далейшых поспехаў у іх рабоце.**

**Пры ўручэнні ўзнагарод прысутнічалі таварышы А. Б. Арыстаў, М. Р. Ігнатаў, А. М. Касыгін, О. В. Куусінен, А. І. Мікаян, Н. А. Мухітдзінаў, М. В. Падгорны, М. А. Суслаў, К. А. Фурцава, М. М. Швернік, П. М. Паспелаў, Я. Э. Калнберзін, А. П. Кірыленка, К. Т. Мазураў, В. П. Мжаванадзе, М. Г. Пярвухін, Г. І. Воранаў, В. В. Грышын, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР В. Н. Новікаў і іншыя.**

**Высокія ўзнагароды ўручаны таксама вялікай групе вучоных і канструктараў, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, узнагароджаных за вялікія поспехі, дасягнутыя ў развіцці ракетнай прамысловасці, навукі і тэхнікі, паспяховае ажыццяўленне першага ў свеце палёту савецкага чалавека ў касмічную прастору на караблі-спадарожніку «Усход».**

## Дзень кнігі

У нядзелю ў Мінску работнікі кнігагандлю сталіцы і беларускія пісьменнікі правялі Дзень кнігі. Дзесяткі латкоў з палітычнай, мастацкай, сельскагаспадарчай літаратурай былі вынесены на Цэнтральную плошчу, у гарадкі трактаразаводцаў і аўтазаводцаў, парк імя Чэлюскінцаў. Як і ў мінулыя Дні кнігі, аматары мастацкай літаратуры цікавіліся новымі творамі пісьменнікаў рэспублікі. Яны ахвотна набывалі творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, раманы і апавяданні К. Чорнага, Зм. Бядулі, М. Лынькова, Я. Маўра.

У сустрэчы з чытачамі прынялі ўдзел пісьменнікі А. Астрэйка, І. Гурскі, Ул. Карпаў, Ус. Краўчанка, А. Кулакоўскі, І. Шамякін і іншыя.

# ТЫ ЧУЕШ МЯНЕ, МОЙ СЯБРА?

Сырая, халодная зямлянка... Ты памятаеш яе, мой сябра?

Гэта ў Градзянскіх лясах...

Гэта амаль дваццаць год назад...

Гэта наша партызанскае жыццё...

Я кажу—жыццё. Трэба было сказаць—барацьба. Толькі барацьба таксама жыццё—неймаверна напружанае, неверагодна цяжкае, невыказна балючае.

Мы бачылі з табой нявінна пралітую кроў жанчын, старых і дзяцей.

На дарогах.

На палетках.

На вогнішчах.

Мы бачылі з табой спаленыя гарады і вёскі.

Мы бачылі з табой невыказна страшэнны згустак чалавечага гора.

Мы бачылі вайну.

Мы ішлі па яе гарачых дарогах, гарэлі ў яе полымі, падалі ў смяротных муках, паднімаліся і зноўку ішлі.

Мы бачылі вайну.

Мы знаем, што гэта такое...

А памятаеш, мой сябра? Аднойчы ў час кароткага адпачынку, пасля баявой работы, мы сядзелі з табой і гаварылі аб жыцці. Не аб вайне. Мы гаварылі аб тым, як будзем сеяць хлеб і варыць сталь, будаваць дамы і садзіць дрэвы, пракладваць новыя дарогі і вадзіць цягнікі...

Мы зналі, для чаго прыйшлі на вогненнае поле вайны. Мы прыйшлі ратаваць Радзіму ад смяротнай небяспекі. А Радзіма—гэта наша жыццё.

Наша слава.

Наша будучыня.

Наш высокі і смелы ўзлёт.

Вось чаму ў нашых сэрцах быў бязмежна вялікі зарад любві да Радзімы, да сваёй Камуністычнай партыі, да свайго народа. Таму мы і кідалі свае сэрцы, як гранаты, на варожыя доты. І спапялялі іх...

Я прыгадаў вайну невыпадкова, мой сябра. Кожны дзень газеты прыносяць трывожныя весткі. Звар'яцелыя ворагі міру крычаць аб новай вайне.

Містэры! А вы ведаеце, што такое потная, белая ад солі, гімнасцёрка, заскарузлыя, крывавыя бінты?

А вы ведаеце, што такое недачакацца дадому бацькі, сына, мужа?

Містэры гэтага не ведаюць.

Містэры гэтага не хочуць ведаць. Яны нічога і нікога за вайну не страцілі. Яны прыдбалі: мільёны, сотні мільёнаў!

Простыя людзі на ўсёй Зямлі-планеце праклінаюць вайну. Народ не хоча вайны. І з гэтым не могуць не лічыцца нават містэры, якія робяць палітыку ў заходніх краінах.

Савецкі ўрад кажа: «Давайце раззбройвацца».

Кіраўнікі заходніх дзяржаў быццам бы і пагаджаюцца на раззбраенне, але нашых канкрэтных прапаноў па гэтаму пытанню прымаць не хочуць. Яны намагаюцца не вырашыць гэтае важнейшае пытанне сучаснасці, а заблытаць яго.

Знаёмыя прыёмы!

А кіраўнікі некаторых капіталістычных краін нават скінулі маску крывадушнасці. У той час, калі Савецкі ўрад вядзе ў Жэневе перагаворы з заходнімі краінамі аб раззбраенні, дзяржаўныя кіраўнікі Францыі валакуць атамную бомбу на выпрабаванне.

А састарэлы заходне-германскі канцлер Адэнауэр лопаецца ад зайздрасці:

— Дайце і мне атамную бомбу!

Навошта ж вам атамная бомба, містэры? Для аховы вашых мільёнаў? Дык жа хто на іх квапіцца? Атамным страшыдлам вы хочаце памножыць вашы мільёны! Вы хочаце падагрэць «халодную» вайну і зрабіць яе «гарачай»!

Паспрабуйце і паглядзіце, каму будзе горача. Не той цяпер час, містэры! У савецкай краіны і яе сяброў ёсць чым адстаяць свае інтарэсы.

Толькі мы не пагражаем нікому вайной.

Ты чуў, мой сябра, выступленне па радыё і тэлебачанню выдатнейшага паўпрэда міру — Мікіты Сяргеевіча Хрушчова? Ён так і сказаў: «Мы не хочам яшчэ адной сусветнай вайны — мы хочам міру...»

Увесь свет прыслухоўваўся да простых і мудрых у сваёй справядлівасці слоў Мікіты Сяргеевіча. Яго сустрэча з прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі Джонам Кенедзі—людская надзея на лепшае.

Ідзе вялікая барацьба, мой сябра. Барацьба за мір. Фронт гэтай барацьбы расцягнуўся на ўвесь свет.

На перадавых пазіцыях сумленныя і надзейныя байцы — народы Савецкага Саюза, народы сацыялістычных краін, простыя людзі ўсяго свету.

Самая грозная і сакрушальная зброя ў гэтай сусветнай барацьбе—праўда, і гэтая зброя peрамoжа.

І так, мой сябра, мы ідзём у наступленне. У пераможны бой за мір. Нас вядзе мудры і вопытны камандзір — наша родная Камуністычная партыя.

Ты, як і мільёны падобных табе, стаіш на сваім баявым пасту: сееш хлеб і варыш сталь, будуеш дамы і садзіш дрэвы, пракладваеш новыя дарогі і водзіш цягнікі...

На тваіх грудзях побач з ордэнам Вялікай Айчыннай вайны—ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Першы ордэн ты атрымаў за гераічныя баявыя дзеянні там, у Градзянскіх лясах...

Другі ордэн ты атрымаў зусім нядаўна за гераічныя дзеянні на мірным фронце...

Значыць, ты добры баец, мой сябра.

Памятаеш, я спаткаў цябе ў новым нашым беларускім горадзе Салігорску? Ты толькі што падняўся з шахты.

У мокрым брызентавым камбінезоне.

Потны і чорны ад бруду.

Ты не скардзіўся на цяжка адпрацаваную змену. Не. Стомлены і радасны, ты расказваў аб новым сваім працоўным подзвігу. Чым глыбей ты прабіваў шахту, тым вышэй паднімалася твая баявая слава.

А памятаеш, мой сябра, як зусім, зусім нядаўна мы спаткаліся з табой на палетках твайго палескага калгаса? Ты па-гаспадарску паказваў мне шырокія палеткі і радаваўся за высокі будучы ўраджай.

Мы гаварылі з табой аб жыцці. Не аб вайне.

Мы гаварылі аб новых электрастанцыях і палёце ў космас, аб новых машынах і палярных даследаваннях, аб новабудоўлях і выдатных адкрыццях...

Мы гаварылі аб нашай дарагой Радзіме.

Радзіма—гэта наша жыццё.

Наша слава.

Наша будучыня.

Наш высокі і смелы ўзлёт.

Вось чаму ў нашых сэрцах бязмежна вялікая любоў да Радзімы, да сваёй Камуністычнай партыі, да свайго ўрада.

Таму мы і працуем не пакладаючы рук. Не згінаемся ў барацьбе. Заваёўваем новыя і новыя мірныя пазіцыі, бяром новыя і новыя рубяжы...

Ты чуеш мяне, мой сябра? Прабач, што я не называю твайго імя. Ты—гэта цудоўны савецкі чалавек.

Будаўнік.

Хлебароб.

Вучоны.

Педагог...

Ты — гэта гаспадар сваёй зямлі.

Вось чаму мне хацелася пагаварыць з табой, як з другам —самым блізкім і надзейным, самым шчырым і сумленным.

Мне проста хацелася сказаць разам з табою:

— Добры дзень, Жыццё!

**Міхась ПЯНКРАТ.**

# ЖЫЦЦЁ ДЛЯ НАРОДА

Чалавек саджае маленькае дрэўца міру... Праз некалькі год яно падрасло, і мы ўжо бачым яго з раскошнай маладой кронай. Здаецца, што нават чуем, як яно шуміць пад лёгкім ветрыкам...

Бывалы, загартаваны ў баях франтавік паказвае гэтаму чалавеку пісьмо з дому. На лістку намаляваны самалёт, гарматы і яшчэ нейкая зброя. То маленькі сынок франтавіка памагае бацьку праганяць са сваёй зямлі ворага.

Чалавек размаўляе з іншаземнымі рабочымі. Ён гаворыць аб сіле рабочага класа, аб яго непераможнасці, калі працоўныя масы з'яднаны перадавой марксісцкай ідэяй. Гаворыць на сваёй роднай мове, з выразнымі жэстамі, і людзі яго вельмі добра разумеюць. Рабочы рабочага зразумее, на якой бы мове ні ішла паміж імі гутарка.

Гэта—вялікі чалавек нашага часу. Вялікі і самы просты, самы чалавечны. А штрышкі, якія падалі мы вышэй,—кадры з фільма аб гэтым чалавеку.

З надзвычайнай цікавасцю і неаслабнай увагай глядзіцца хораша зробленая дакументальная аповесць аб нашым Мікіце Сяргеевічу. Мы бачым таварыша Хрушчова ў цёмнай старой шахце, а потым у падземных праходах маскоўскага метрапалітэна. Ён тут цікавіцца кожнай дэталлю ў вялікім комплексе работ, гутарыць з рабочымі, тэхнікамі, інжынерамі. І не адзін толькі раз, не ад выпадку к выпадку, а сістэматычна, можа, нават кожны дзень. Як кіраўнік маскоўскай партыйнай арганізацыі ён заўсёды ў народзе і з народам. Жыццё людзей, іх работа, штодзённыя клопаты—гэта яго жыццё, яго работа, яго самыя важныя клопаты.

Затым на экране праходзяць кадры аб такой жа нястомнай, энергічнай дзейнасці Мікіты Сяргеевіча на Украіне, на франтах Вялікай Айчыннай вайны, на розных участках сацыялістычнага будаўніцтва пасля вайны. Усюды Мікіта Сяргеевіч надзвычай просты, глыбока народны і настойлівы ў сваіх шчырых імкненнях да новага і лепшага, да людскога шчасця. Усе яго думкі і мары, усе клопаты толькі аб тым, каб людзям жылося добра, каб чалавек нашага сацыялістычнага грамадства адчуваў сябе шчаслівым. Таму і такі ўважлівы Мікіта Сяргеевіч да кожнага савецкага чалавека і да кожнага добрага чалавека за рубяжом. Таму і душа яго заўсёды з людзьмі, сумленнымі і нястомнымі стваральнікамі першага ў свеце камуністычнага грамадства. Душа цёплая, добразычлівая, калі гаворка ідзе аб лепшым у жыцці, перадавым. Гэта адчуваецца ў жэстах, у добрай усмешцы, відно ў вачах. Аднак Мікіта Сяргеевіч можа быць і строгім, патрабавальным, калі трэба выкрыць недахопы, вывесці на чыстую ваду несумленных работнікаў. Прынцыповасць і крыштальнасць характару тут непахісная.

І ўсё гэта вельмі добра адчуваюць людзі, таму так шчыра паважаюць і любяць Мікіту Сяргеевіча як чалавека і дзяржаўнага дзеяча.

Не многа кадраў пададзена аб міжнароднай дзейнасці Мікіты Сяргеевіча, але і па іх відаць, з якой кіпучай энергіяй, з якім розумам змагаецца ён за мір ва ўсім свеце, за тое, каб нашы дзеці і ўнукі не ведалі, што такое вайна. Нельга, вядома, у параўнаўча кароткім, дакументальным фільме паказаць усю дзейнасць чалавека, работа якога на працягу аднаго дня магла б запоўніць паўнаметражную плёнку.

Гледзячы фільм «Наш Мікіта Сяргеевіч», мы, канешне, разумеем, што тут паказаны толькі асобныя моманты, дэталі са шматграннай, шматгадовай дзейнасці Мікіты Сяргеевіча. Але і з гэтых штрышкоў вельмі выразна і пераканальна паўстае вобраз простага, сапраўды нашага, сапраўды любімага ўсімі чэснымі людзьмі чалавека. Гэтаму чалавеку хочацца ўсёй душой і сэрцам верыць, ісці за ім хоць нават і па самых цяжкіх сцежках нашага будаўніцтва, дамагацца разам з ім самага светлага шчасця на зямлі.

Пасля прагляду фільма ўзнікаюць вельмі цёплыя, бадзёрыя думкі, адчуванні, з'яўляецца харошы гонар за нашу Радзіму, слаўная гісторыя якой прайшла ў штрышках на экране, за нашу партыю, якая вядзе савецкі народ да сонечных вышынь камунізма, за Цэнтральны Камітэт партыі на чале з нашым Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым. І гонар гэты яшчэ ўзрастае, калі прачытаеш указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Першага сакратара ЦК КПСС і Старшыні Савета Міністраў СССР двойчы Героя Сацыялістычнай працы таварыша Хрушчова М. С. ордэнам Леніна і трэцім залатым медалем «Серп і Молат». Мікіта Сяргеевіч узнагароджаны за выдатныя заслугі ў кіраўніцтве па стварэнню і развіццю ракетнай прамысловасці, навукі, тэхнікі і паспяховым ажыццяўленні першага ў свеце касмічнага палёту савецкага чалавека на караблі-спадарожніку «Усход», які адкрыў новую эру ў асваенні космасу.

Гэта яшчэ адно выдатнае ўсенароднае прызнанне вялікіх заслуг нашага Мікіты Сяргеевіча перад сваёй краінай, перад усім светам.

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

## *Сорак першы — шэсцьдзесят першы*

... Ужо каторы дзень ішлі баі. Крэпасць ляжала ў руінах. Радыёрэпрадуктары з таго боку Буга і Мухаўца гарланілі: «Нямецкія войскі ўзялі Мінск, Віцебск, Магілёў, Смаленск...»

Боль скаланаў сэрцы байцоў неўміручага гарнізона. Іх засталося нямнога. Яны добра ведалі: на дапамогу сюды ніхто не прыйдзе. Радзіма абліваецца крывёю на палях бітваў.

Паранены адзін з кіраўнікоў абароны Цэнтральнага вострава крэпасці Андрэй Кіжаватаў. Лейтэнант стараецца выстаяць на нагах. Цяпер ён тут і ўрач і камандзір. Цераз плячо ў яго перакінута санітарная сумка. Некалькі дзён яе насіла жонка Каця. Яна перавязвала раны байцам. Але жанчыны і дзеці па загаду камандавання абароны 26 чэрвеня пакінулі крэпасць. Сярод іх — і Каця Кіжаватава з трыма дочкамі. «Дзе яны? Што з імі?» — думае лейтэнант.

У казамат прыводзяць парламенцёра. Фашысцкі афіцэр працягвае руку савецкаму камандзіру.

— Вашы рукі ў чалавечай крыві, — не падаючы ворагу руку, сурова гаворыць А. Кіжаватаў. Ён паказвае на крапасную плошчу, дзе ляжаць трупы байцоў. — За што забілі гэтых людзей?!

Гітлеравец з момант маўчыць. Затым з яго вуснаў зрываецца:

— Прапаную скласці зброю і капітуляваць.

— Савецкія воіны не здаюцца аж да смерці! — сурова адказвае А. Кіжаватаў.

— Хіба вы жыць не хочаце? Нямецкае камандаванне захавае вам і вашай сям'і жыццё. Вам будуць створаны самыя лепшыя ўмовы...— пачаў спакушаць парламенцёр.

— Я савецкі воін, а савецкія воіны не здаюцца! — крычыць у твар фашысту А. Кіжаватаў.

Праз некалькі мінут невялічкая група воінаў пад камандаваннем цяжка параненага лейтэнанта прымае бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў...

Так у навальнічныя дні 1941 года тут, на краю нашай Радзімы, стаялі насмерць савецкія воіны. Яны аддавалі сваё жыццё за мір і шчасце нашага народа, за мір і шчасце на ўсёй зямлі.

Памятныя мясціны, звязаныя з гераічнай абаронай Брэсцкай крэпасці, знаходзяць адлюстраванне ў карцінах многіх беларускіх мастакоў. На гэтым здымку вы бачыце брэсцкага мастака Васіля Шыкіна, які працуе над карцінай «Холмскія вароты».

# СВЕТ ДУШЭЎНАЙ ПРЫГАЖОСЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Галоўны герой аповесці — чырвонаармеец Іван Чыжык. Праз мноства перашкод і выпрабаванняў ён прабіваецца з крэпасці да арміі. Ён з тых, што паміралі, але перамагалі.

Заключны раздзел «Над кручамі» тым і моцны, што паказвае непераадольную ўпартасць у барацьбе, волю да перамогі нават тады, калі няма ніякай надзеі. Чыжык кінуты фашыстамі ў засценак. Мы бачым яго перажыванні, чытаем думкі. Так жыва ў душы, у думках уяўляе ён сабе ўсё, што ён павінен страціць назаўсёды — жыццё, каханую Зосю, будучыню, што любоў, нянавісць, прага помсты ўзнімаюць яго, паўжывога, прымушаюць шукаць выратавання. Узнікаюць успаміны і адзін з іх—спеў надломленага чароту, ціхі і далёкі, пераплятаецца з тонкім скрыпам адарванай дошкі. Нараджаецца спадзяванне. Чытач пачынае верыць у выратаванне Чыжыка, хоць падрабязнасцей уцёкаў амаль няма, а толькі намёкі, і ўсё гэта падобна на цуд. Верыць і радуецца, таму што ведае: Чыжык ратаваўся не толькі дзеля сябе, ён зноў, як і раней, праб'ецца ў строй байцоў.

І ўсё ж, нягледзячы на ўражлівы ўступ і заключэнне, аповесць пакідае пачуццё нездаволенасці... Эпічны пачатак стылістычна не звязаны з працягам і робіць уражанне вялікай галавы на малым целе. Ён патрабуе апісання падзей такога ж буйнага маштабу. Аднак у далейшым мы сочым за лёсам аднаго толькі Чыжыка.

Адчуваецца, што М. Лупсякову нестае майстэрства паказу разгорнутага скразнога дзеяння. І аповесць па сутнасці распадаецца на рад асобных навел — эпізодаў («На усход», «Ой, туманы мае, растуманы» і інш., і асабліва самастойная — «Над кручамі»).

Звярнуўшыся да тэмы вайны, так шматбакова адлюстраванай ва ўсёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры, пісьменнік павінен быў знайсці новыя фарбы, сітуацыі, якія дапамаглі б раскрыць у савецкім чалавеку тое, што здолеў убачыць і паказаць толькі гэты мастак, ён і толькі ён. А між тым у аповесці адлюстраваны сітуацыі, якія ўжо шмат разоў апісаны. Развіцця дзеяння, батальнага жывапісу няма. Пададзена толькі ў агульных рысах вялікая, надзвычайная падзея, якая ўварвалася ў жыццё, у лёс многіх людзей, у прыватнасці ў лёс Івана Чыжыка, — вайна. Чалавек процідастаўлены вайне. І гэтае процідастаўленне было б шматзначным, калі б пісьменнік паказаў унутранае развіццё вобраза з усёй праўдзівасцю і псіхалагічнай паслядоўнасцю. Але пісьменнік у дадзеным выпадку пакінуў сваю надзейную зброю. Вобраз Чыжыка статычны на працягу ўсёй аповесці. Чыжык увесь час аднолькава стойкі і адважны, нібы такім ён і нарадзіўся. Пры гэтым як быццам усе паводзіны Чыжыка і матываваны — ім рухае пачуццё бязмежнага патрыятызму: і тады, калі ён змагаецца да апошняга патрона без яды і вады, у паўпрытомнасці ў крэпасці, і калі помсціць за расстрэл камісара, і калі адмаўляецца ад «ціхага прыстанішча» ў гасціннага Патапа Дзяменцьевіча, і калі б'е ворага ў тыле, і калі вырываецца з засценка. Але патрыятызм — гэта агульная ідэйная матывіроўка. У кожнага ўдзельніка вайны быў свой, індывідуальны шлях развіцця характару і светапогляду. І ў паказе, раскрыцці гэтага працэсу, у пазнанні яго чытачом тоіцца магутная выхаваўчая сіла літаратуры. Іменна яе не хапае твору М. Лупсякова.

Два месяцы абароны крэпасці— суровая школа. Але яна паказваецца вонкава, як суцэльнае вогненнае месіва, а паводзіны знясіленага Чыжыка — як паўсвядомыя. Як з юнака ён стаў воінам, якія душэўныя рубяжы перайшоў, як навучыўся не толькі любіць, але і ненавідзець, адкуль набраўся асцярожнасці, якую потым праяўляе ў дарозе? Чаму жахі вайны і асады ўмацавалі ў Чыжыка жаданне змагацца?

Дзеянням Чыжыка не хапае матывіроўкі прыватнай, матывіроўкі асобных паводзін. Аўтар і сам адчувае гэта і спрабуе выправіць становішча штучным прыёмам. Гэтым прыёмам з'яўляецца выкарыстанне вобраза палкавога камісара, які і пасля сваёй смерці працягвае кіраваць Чыжыкам. Зусім лагічна, што прыклад героя-камуніста аказвае вялікі ўплыў на байца. Але калі камісар паяўляецца непазбежна ва ўсе рашаючыя хвіліны і дыктуе паводзіны, гэта набывае ўжо нейкі містычны характар.

Недахопам аповесці з'яўляецца і тое, што надзелены характарам — няхай сабе нават у статыцы! — адзін толькі Чыжык. Гэта валявы, мужны, рашучы, сумленны чалавек вялікай душы, якая здольна ўмясціць і вялікую любоў, і вялікую нянавісць.

Астатнія персанажы нежыццёвыя і нават умоўныя, асабліва найбольш важныя і блізкія Чыжыку — Зося і камісар. Зося — гэта цень Чыжыка, камісар — увасабленне абавязку і сумлення. Так, нягледзячы на велічны пачатак і поўны аптымізму, лагічна і псіхалагічна абгрунтаваны канец, аповесць пакідае ўражанне добра задуманага, але недабудаванага дома.

Калі прыгледзецца да дат пад творамі, дык заўважаеш адну асаблівасць — усе лепшыя апавяданні зборніка датаваны шасцідзесятым годам. А гэта значыць, што творчасць М. Лупсякова знаходзіцца на ўздыме.

**М. СТАЛЯРОЎ.**

# „І ІДЗЕ ГАСЦІННА У ДЗВЕРЫ“

## ЛІСТ З УКРАІНЫ

Хто з аматараў паэзіі на Украіне не ведае шчырых паэтычных радкоў класіка беларускай паэзіі Янкі Купалы:

Украіна, цвеце любы,  
Сонцам гадаваны...

«Паэзія Купалы — гэта квітнеючы і духмяны сад, дзе сабраны водар беларускай зямлі», — сказаў пра яго вялікі пабрацім Якуб Колас у прадмове да кнігі Янкі Купалы «Выбранае», якая выдадзена на ўкраінскай мове ў Кіеве ў 1947 г.

Такой жа высокай ацэнкі, бясспрэчна, заслугоўваюць і творы самога Якуба Коласа, якія шырока вядомы на ўкраінскай зямлі.

Цікавасць да творчасці Купалы і Коласа ўсё ўзрастае, і 80-годдзе абодвух паэтаў, якое набліжаецца, несумненна, гэтак жа шчыра будзе адзначана на Украіне, як і ў роднай паэтам Беларусі.

У адным з даваенных вершаў Я. Колас пісаў:

І ідзе гасцінна ў дзверы,  
Ў чум, кішлак, аул  
К нам Шаўчэнка, Руставелі,  
Пушкін і Джамбул.

Сёння можна яшчэ дадаць, што, як браты, прыйшлі да ўкраінцаў (і не толькі да ўкраінцаў!) і класікі беларускай літаратуры.

Дастаткова прывесці такі просты факт. У сяле Высоцку Дубровіцкага раёна на Ровеншчыне, дзе я жыву, працоўныя добра ведаюць творы беларускіх пісьменнікаў аж на трох мовах: украінскай, рускай і на роднай мове беларусаў.

Працоўныя нашага раёна спаборнічаюць з працоўнымі Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, а гэта спрыяе таксама і культурнай сувязі прадстаўнікоў двух братніх народаў.

У бібліятэках вёскі — школьнай і масавай сельскай — нямала твораў беларускіх літаратараў і, звычайна, найбольш Я. Купалы і Я. Коласа.

Апроч Анталогіі беларускай савецкай паэзіі (1948 года выдання), якая адкрываецца творамі Я. Коласа і Я. Купалы, тут ёсць шмат асобных выданняў гэтых паэтаў: «Выбраныя творы» Янкі Купалы шматгадовых выданняў (у перакладах пад рэдакцыяй П. Тычыны і М. Цярэшчанкі), яго ж «Выбраныя творы» ў двух тамах, кніжка для дзяцей «Алеся» на ўкраінскай мове і інш. Творчасць Якуба Коласа прадстаўлена «Выбранымі творамі» (пераклад пад рэдакцыяй П. Тычыны), «Выбраным» (пад рэдакцыяй Я. Мазалькова), паэмаю «Рыбакова хата» на рускай мове і іншымі кнігамі.

У многіх хатах высачан я бачыў творы беларускіх пісьменнікаў і на беларускай мове, і ў перакладах на ўкраінскую і рускую мовы. Сярод іх таксама творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія любілі Украіну і яе культуру і пазнаёмілі беларускі народ з «Кабзаром» нашага Тараса Шаўчэнкі як яго рэдактары.

Не кажу ўжо пра тое, што высачане любяць, ведаюць і спяваюць песні беларускага народа, у тым ліку і творы неўміручых песняроў Беларусі; гэтыя песні гучаць і ў выступленнях удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, і проста ў побыце высачан.

Усё гэта дае мне права ад імя землякоў сваіх выказаць пажаданне, каб 80-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа адзначалася як міжнародны юбілей, як гэта было з Шаўчэнкам, Франко, Шолам-Алейхемам, Тагорам і іншымі вялікімі песнярамі сваіх народаў.

Няхай водар беларускай зямлі, сабраны ў квітнеючых садах паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа, разыйдзецца па ўсёй нашай планеце!

**Пятро КРАСЮК.**

в. Высоцк на Ровеншчыне.

# Юбілей бібліятэкі

Бібліятэка імя А. С. Пушкіна ў Бабруйску — адна са старэйшых масавых бібліятэк на Магілёўшчыне. Яна была адкрыта 60 год назад.

Некалькі шафаў з кнігамі ды каля двухсот чытачоў з ліку заможных жыхароў горада — вось і ўсё, што складала бібліятэку ў гады царскай улады.

Сёння бібліятэка мае светлую і прасторную чытальную залу, хатні абанемент. Пастаяннымі чытачамі яе кніг з'яўляюцца сем тысяч бабруйчан. У кнігасховішчы 60 тысяч экземпляраў кніг, часопісаў і брашур па ўсіх галінах ведаў. Бібліятэка штогод выдае сваім чытачам па 160—180 тысяч кніг. А разнастайныя масавыя мерапрыемствы па прапагандзе кнігі! Іх і не пералічыш. Галоўнае— вынік гэтай работы.

Бібліятэцы прысвоена высокае званне «Лепшая гарадская бібліятэка Магілёўскай вобласці».

Днямі грамадскасць Бабруйска ўрачыста адзначыла 60-годдзе сваёй бібліятэкі. У гарадскім парку культуры і адпачынку адбыўся з гэтай прычыны ўрачысты вечар.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ.**

☆

Вялікім поспехам у працоўных Гродна карыстаецца танцавальны калектыў Палаца культуры тонкасуконнага камбіната. У ім удзельнічаюць ткачыхі, прадзільшчыцы, слесары, дзеці тэкстыльшчыкаў.

**На здымку:** адна з актыўных удзельніц самадзейнасці Палаца культуры камбіната Маргарыта **Круцелева** рыхтуецца да танца «Бярозка».

Фота **А. Перахода.**

Фотахроніка БЕЛТА.

ГЭТА ЗРОБЛЕНА КІТАЙСКІМІ МАЙСТРАМІ

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР знаходзіцца выстаўка твораў прыкладнога мастацтва кітайскіх майстроў. На здымках: вырабы з косці — ваза і шар з адзінаццаццю шарамі ў сярэдзіне.

# ПРА ДОБРАЕ — НА УВЕСЬ ГОЛАС

Вёска Яроміна — цэнтр калгаса імя Сталіна Гомельскага раёна. У ёй больш чым тысяча двароў. За гады Савецкай улады тут адбыліся вялікія змены. Старая вёска з царквой і паўразбуранымі хатамі знікла. На яе месцы вырасла новая калгасная вёска з радыё і электрычнасцю, Домам культуры. Летась прыбытак сельгасарцелі склаў каля васьмі мільёнаў рублёў (у старых грашах). З кожным годам расце грамадскае багацце, паляпшаецца жыццё калгаснікаў. Вялікія планы вызначылі сельскія працаўнікі на бліжэйшыя гады. Сёлета яны змагаюцца за атрыманне на сто гектараў сельгасугоддзяў па 100 цэнтнераў мяса і па 475 цэнтнераў малака.

Падтрымліваць і пашыраць перадавы вопыт, дапамагаць працаўнікам вёскі выкарыстаць усе магчымасці росту сельскагаспадарчай прадукцыі, датэрмінова выканаць сямігадовы план развіцця калгаса — вось што ставяць у цэнтр увагі работнікі культуры арцелі.

Аб найбольш цікавых формах гэтай работы, якая садзейнічае мабілізацыі сельскіх працаўнікоў на далейшыя поспехі, расказваюць Б. Матвеенка і Г. Клябанаў у брашуры **«У нагу з жыццём»**, якую нядаўна выдала Белдзяржвыдавецтва.

Далёка за межамі Яроміна вядомы імёны свінарак Л. Чайковай, даяркі А. Пушнегінай, цялятніцы А. Храмінай, брыгадзіра комплекснай брыгады П. Чайкова, маладога трактарыста І. Вольскага і іншых. Зрабіць іх вопыт здабыткам усіх калгаснікаў — галоўнае ў рабоце Дома культуры.

Сіламі грамадскасці падрыхтавана наглядная агітацыя, якая трапным словам і канкрэтнымі лічбамі расказвае аб поспехах перадавікоў арцелі, аб іх задачах на будучае.

Вялікая ўвага аддаецца правядзенню тэматычных вечароў. Аб адным вечары сустрэчы моладзі з членамі брыгады, якая змагаецца за званне камуністычнай, расказваецца на старонках брашуры.

Клубныя работнікі ў час падрыхтоўкі вечара не адзін раз пабывалі на фермах, гутарылі з заатэхнікам, даяркамі, свінаркамі. Актывісты рыхтавалі да вечара плакаты, заклікі, дыяграмы, стэнды, кніжныя выстаўкі ля Дома культуры, на жывёлагадоўчых фермах, у брыгадах былі вывешаны аб'явы.

Вечар адкрыла член камітэта камсамола Т. Каешка. Яна расказала аб тым, як працуе моладзь, аб яе поспехах, аб значэнні руху ўдарнікаў і брыгад камуністычнай працы. Затым выступілі наватары.

Як паведамляюць аўтары брашуры, хутка пасля вечара ў спаборніцтва за званне калектыву камуністычнай працы ўключылася звяно кукурузаводаў, якім кіруе камсамолка Е. Чайкова.

Для клубных работнікаў цікавы раздзел брашуры «Гартаючы старонкі», які расказвае пра вусныя часопісы. Іх калгасны Дом культуры пачаў выпускаць не так даўно, але яны надзвычай падабаюцца калгаснікам.

Яромінскія культурна-асветныя работнікі ўмела прапагандуюць сельскагаспадарчую літаратуру. Яны расказваюць калгаснікам пра новыя творы, арганізоўваюць гучныя чытанні газет, часопісаў. Сёння ў Яроміна няма ні аднаго двара, калгасніка, дзе б не чыталі кнігі. Сельскагаспадарчая літаратура складае значную частку кнігавыдач.

Работнікі Дома культуры не абмяжоўваюцца выдачай кніг. Яны частыя госці ў паляводаў і жывёлаводаў. У бібліятэцы арганізаваны адкрыты доступ да кніг, ёсць выстаўкі, бібліятэчныя плакаты, рэкамендацыйныя спісы літаратуры.

Вялікую дапамогу ў распаўсюджванні кнігі аказвае бібліятэцы актыў — людзі, якія па-сапраўднаму любяць кнігу. Грамадскіх распаўсюджвальнікаў кнігі М. Ільюшэнка, В. Гачэню, Л. Канаплёву, Н. Дзюбалаву, Н. Гулава абласное ўпраўленне культуры ўзнагародзіла граматамі.

Бібліятэка калгаснага Дома культуры часта праводзіць канферэнцыі чытачоў. Тэмы іх самыя разнастайныя. Прапагандзе перадавога вопыту аддаецца асаблівая ўвага.

Аўтары брашуры расказваюць аб арганізацыі і ролі нагляднай агітацыі ў прапагандзе перадавога вопыту ў сельскай гаспадарцы.

Гэта цікавая брашура акажа значную дапамогу сельскім культасветработнікам у іх рабоце. Побач з гэтым, трэба сказаць, што рэдакцыя недастаткова дапамагла аўтарам брашуры больш поўна і канкрэтна раскрыць вопыт работы калгаснага Дома культуры. Пра многія карысныя справы ў брашуры сказана мімаходзь.

Узяць, напрыклад, раздзел «Раўняцца на перадавікоў!» Гаворка ў ім ідзе толькі пра першую частку маладзёжнага тэматычнага вечара. Аўтары прымушаюць чытача верыць у тое, што арганізавана прайшла і другая частка вечара: канцэрт мастацкай самадзейнасці, гульні, танцы, атракцыёны, вясёлая латарэя. Варта было б расказаць і пра змест канцэрта, пра яго ўдзельнікаў.

Нецікавым атрымаўся апошні раздзел брашуры. Аўтары, чамусьці, больш гавораць пра планы на будучае, чым пра выхаваўчую і культурна-масавую работу ў сучасны момант.

**І. ПЯТРОЎ.**

# *У літаратурным архіве*

— Якія дакументы паступілі за апошні час у Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР? — такое пытанне зацікавіла чытачоў нашай газеты.

Старшы навуковы супрацоўнік архіва К. Камарова адказала:

— Адзін са старэйшых паэтаў Беларусі Міхась Машара перадаў свае дакументы за 1928—1959 гады. Сярод іх — вершы, напісаныя паэтам у турме «Лукішкі» ў Вільні, дзе ён прасядзеў чатыры гады за ўдзел у рэвалюцыйным руху. Маюць цікавасць творы, напісаныя Міхасём Машарам у 1930—1936 гг. Тут цыкл вершаў «На пераломе», творы «Я сёння вясёлы і рады», «І зноў вясна і шолах адраджэння», «Нашы песні цяпер не вясёлыя», п'еса «Чорт з падпечча» (1935) і інш.

У гады Вялікай Айчыннай вайны М. Машара знаходзіўся на Калінінградскім фронце і ў штабе партызанскага руху. Ім у архіў перададзены фельетоны і артыкулы, напісаныя ў гады вайны.

У пасляваенныя гады паэт займаецца перакладамі на беларускую мову вершаў Ул. Маякоўскага, М. Рыльскага, А. Блока, П. Камарова, А. Міцкевіча, Ю. Тувіма. Рукапісы перакладаў таксама паступілі ў архіў.

Удавой Міхася Васілька перададзены рукапісны фонд паэта. Значнае месца ў фондзе М. Васілька займаюць яго творы. Захаваліся старонкі рукапісаў зборніка вершаў «Шум баравы». Тут вершы — «Будзьце вы моцнымі» (1925), «Пад цяністай вярбой» (1930), «Балюйце, гуляйце, панове» (1932), вершы «У няволі» (1940).

У фондзе паэта захоўваюцца запісныя кніжкі з вершамі часу Вялікай Айчыннай вайны, калі ён знаходзіўся ў партызанскім атрадзе.

Многа ёсць пісем, адрасаваных М. Васільку, ад ленінградскіх паэтаў — А. Пракоф'ева, П. Кабзарэўскага, І. Грыгор'ева, ад беларускіх — Я. Брыля, М. Танка, П. Пестрака, М. Засіма і інш.

Цэнтральны дзяржаўны архіў Літвы перадаў Архіву літаратуры і мастацтва БССР дакументы па гісторыі беларускай літаратуры і культуры за дарэвалюцыйны перыяд першых гадоў Савецкай улады ў Беларусі.

Цікавымі для даследаванняў з'яўляюцца асабістыя дакументы беларускай паэтэсы Цёткі (Э. Пашкевіч) — невядомыя вершы Цёткі, копіі судовых матэрыялаў па абвінавачанню Я. Коласа ў рэвалюцыйнай дзейнасці і асабістыя пісьмы паэта; біяграфія Ігната Буйніцкага, паведамленне аб невядомых рукапісах Я. Купалы (1937), пераклад на беларускую мову «Пана Тадэуша» А. Міцкевіча; матэрыялы, рукапісы, артыкулы, вершы беларускіх аўтараў з газет і часопісаў, што выдаваліся ў 1908—1937 гг.

Архіў плануе ў гэтым годзе пачаць пошукі і збор матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры.

# *Краса* ЗЯМЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й і 3-й стар.).

па-ранейшаму наперадзе. І ўсё ж дыстанцыя паміж дзвюма даяркамі зменшылася.

Тацяна вырашыла ў 1960 годзе змагацца за надой 5 500 кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Яна параілася з Кавалёвай, ці можна браць такое высокае абавязацельства, і тая сказала:

— Цяпер табе гэта па сіле, Таня. — Яна ўсміхнулася лагодна і з мацярынскай ласкай у голасе сказала: — Радуюся я, гледзячы на цябе.

А Тацяна нагадала той ужо не блізкі час, калі Марыя Осіпаўна агітавала яе ісці працаваць на ферму. На душы ў Тацяны разлілася цеплыня, агарнула радасць, што яна спраўдзіла надзеі гэтай добрай, умудронай жыццёвым вопытам жанчыны.

— Што ж, паспрабую, — весела адказала Тацяна.

Пачаўся новы этап у яе працы.

Гэта ішоў другі год сямігодкі. Уся савецкая краіна жыла вялікімі здзяйсненнямі. «Сямігодку — датэрмінова!» — гэты заклік авалодаў думамі і імкненнямі незлічонай арміі змагароў за камунізм. На перадавой лініі барацьбы была і Тацяна.

Яна марыла ўступіць у рады Камуністычнай партыі. Усе вясковыя камуністы ведалі яе: свае ж людзі, з аднаго калгаса. Ёй далі рэкамендацыі стары камуніст Ул. Скварцоў, сакратар партыйнай арганізацыі Г. Адамчыкава, а таксама камсамольская арганізацыя. Тацяна не сумнявалася, што яе прымуць, але ўсё роўна моцна хвалявалася. Вялікая партыя камуністаў прыме яе ў свае рады. Тая партыя, што вядзе краіну ў светлую будучыню — у камунізм. Тая партыя, што зрабіла шчаслівай яе, Тацяну, як і мільёны іншых... Як жа не хвалявацца!

І вось збіраецца калгасны партыйны сход. Ён разглядае Тацяніну заяву. Проста ўсё і, разам з тым, урачыста, строга, так, што запомніш на ўсё жыццё, як б'ецца ў тыя хвіліны тваё сэрца і дрыжыць голас, калі адказваеш на самыя простыя пытанні, што задаюць табе камуністы. Выступілі Скварцоў і старшыня калгаса Козыраў. Яны гаварылі пра Тацянін працоўны подзвіг.

А потым прагаласавалі. Ну, вядома ж, аднагалосна. Яе сталі віншаваць, і толькі цяпер пакінула Тацяну скаванасць, шчаслівая ўсмешка азарыла яе твар.

Праз некалькі тыдняў (гэта было ўжо ў снежні) Тацяну выклікалі ў райком партыі, на зацверджанне пастановы агульнага сходу партарганізацыі калгаса імя Леніна аб прыёме яе кандыдатам у члены КПБ. Сакратар райкома партыі коратка пазнаёміў членаў бюро са справай Тацяны Васільковай. Тут яе ўсе ведалі, і было зададзена толькі адно пытанне:

— Як выконваеце свае абавязацельствы па надою малака?

— Ужо выканала, — прамовіла Тацяна.

— Так, яна ўжо выканала, — услед за ёю сказаў сакратар райкома і звярнуўся да Тацяны:- Можна рапартаваць, Тацяна Вяргееўна. Віншуем і дзякуем!

Там жа, у райкоме, пасля пасяджэння бюро, Тацяна трапяткою рукой падпісала наступнае пісьмо ў ЦК партыі і ва ўрад рэспублікі: «Рыхтуючы дастойную сустрэчу чарговаму Пленуму ЦК КПСС, я перавыканала сваё гадавое сацыялістычнае абавязацельства надаіць па 5 500 кілаграмаў малака ад кожнай каровы сваёй групы, на 20 снежня надаіла па 5 540 кілаграмаў. У гэты радасны дзень я прынята кандыдатам у члены вялікай партыі камуністаў. Гэта вялікая падзея ў маім жыцці».

Праз некалькі дзён яна атрымала тэлеграму, у якой гаварылася:

«Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў БССР віншуюць Вас з паспяховым выкананнем узятага на 1960 год сацыялістычнага абавязацельства па надою ад кожнай замацаванай каровы па 5 500 кілаграмаў малака.

Жадаем Вам, Тацяна Вяргееўна, новых працоўных поспехаў, добрага здароўя і шчасця ў асабістым жыцці».

Тацяна некалькі разоў перачытала тэлеграму. Шчасцем поўнілася ўся яе істота. Гэта было шчасце перамогі.

Заваяваны яшчэ адзін вялікі рубеж.

5

ВЯСНА ўбіралася ў моц. Зацвіталі сады. Пахучыя ліпкія лісточкі выкідвалі вольхі ды бярозы.

Чалавека заўсёды радуе вясна, яна будзіць глыбокія струны яго душы, кліча быць маладым і дужым.

Тацяна ішла на ферму, і душа яе поўнілася гэтым адчуваннем вясны.

Над нейчым гародчыкам звісала вішнёвае голле ў квецені, здавалася, быццам гэта белае пуховае воблачка зачапілася за частакол; і Тацяна не ўцярпела, адшчыкнула адзін пялёстак, паспытала яго; тоненькі пялёстак прыліп да губы, і Тацяне прыемна было адчуваць яго гаркаватасць і кволасць.

Яна ішла і думала пра гэты пялёстак, і марыла, якія будуць яе дзеці, калі павырастаюць. Іх ужо трое: меншая, Люба, нядаўна нарадзілася, яна яшчэ кволенькая, як гэты вішнёвы пялёстак. Сын Сашка ўжо заканчвае першы клас, ён старэйшы.

— Буду Гагарыным! — заявіў Сашка ўчора. Тацяна ўсміхнулася, прыгадаўшы гэтыя яго словы.

Думкі яе паплылі ў іншым кірунку. Веліч подзвігу першага касманаўта Гагарына зноў, у каторы раз за гэтыя дні, паўстала перад Тацянай. Як яна дзівілася і радавалася, калі пачула пра палёт у космас чалавека! Ды ці адна яна — увесь калгас, уся краіна захапляецца. Гэта ж было толькі чатыры дні назад. Тацяна, пачуўшы вялікую навіну, усклікала: «Вось гэта дык подзвіг! Які шчаслівы чалавек!» Назаўтра перадавалі прамову М. С. Хрушчова, і радасна Тацяне было пачуць словы аб тым, што подзвіг Гагарына — гэта гераічная праца ўсяго савецкага народа — рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі. У тым ліку і яе, Тацяніна, праца. Радасна ўсведамляць, што тваё старанні ўліваюцца няхай сабе адной малюсенькай кропляй у вялікую працу народа.

І хочацца рабіць яшчэ лепш. Летась сярод калгасных даярак яна заняла другое месца, ёй не ўдалося дагнаць Лідзію Асіюк. Сёлета доўгі час Тацяна не працавала, была ў дэкрэтным адпачынку. Але ж яна яшчэ маладая, ёй толькі дваццаць восем год, наперадзе ў яе цэлае жыццё. Яна яшчэ паспаборнічае з Асіюк!

Тацяна зайшла ў кароўнік, пачала выганяць на прагулку кароў. Тыя выходзілі паслухмяна, спаважна, адна за адной: Незабудка, Ліса, Рамашка, Нежная... Мянушкі ўсё такія ласкавыя, так назваць кароў мог толькі чалавек, які душэўна любіць сваю работу і бачыць у ёй высокае харастыва жыцця...

— Хутка на пашу пойдзеце, рагулькі, — прамовіла Тацяна, быццам каровы маглі зразумець яе.

Да Тацяны падыйшла Марыя Осіпаўна, сказала:

— Загляні ў чырвоны куток, Таня, касір прыйшла грошы выдаваць.

— Добра, — адказала Тацяна, — вось атрымаю кармы, упраўлюся трохі і зайду.

У кароўніку завіхаліся і іншыя даяркі. Шмат год працуе разам з імі Марыя Осіпаўна. Пасябравала, звыклася. А час жа ляціць, не дагоніш, не вернеш, і ўжо немаладая Марыя Осіпаўна: даўно шосты дзесятак ідзе, здароўе ўжо не тое. От нядаўна давялося і да доктара ісці, той сказаў: паляжаць трэба ў пасцелі, адпачыць трэба. А Марыя Осіпаўна не можа без работы, усё жыццё яна аддала калгаснай справе і шкада ёй пакідаць ферму. Папрацуем яшчэ не адзін год! — весела кажа яна сабе і падыходзіць да адной даяркі, да другой, перакідваецца з імі словамі. Потым ідзе на склад, дзе даяркі атрымліваюць кармы. Так у клопатах і мінае гадзіна, другая. А тады ўжо даяркі пачынаюць дойку кароў, і Марыя Осіпаўна вяртаецца ў чырвоны куток.

Там ужо была Тацяна. Расчырванелая ад работы, у белай хусцінцы, якая яшчэ больш адцяняла маладую чырвань шчок, Васількова чакала Марыю Осіпаўну. Неўзабаве сталі заходзіць і іншыя даяркі. Яны прыносілі вёдры белага, духмянага, пеністага малака.

У гэты час у пакой зайшлі дзве дзяўчынкі ў школьнай форме, з піянерскімі гальштукамі: адна — бялявая, са светлымі ільнянымі коскамі, другая — чорненькая, з іскрыстымі карымі вачаняткамі. Дзяўчынкі трымалі ў руках бітончыкі.

— Па малако прыйшлі? — спыталася Марыя Осіпаўна.

— Ага, — адказалі дзяўчынкі.

Гэта школьнікі ў час вялікага перапынку паміж заняткамі атрымліваюць па шклянцы свежага малака, і вось двое пасланцоў прыйшло па гэты дар. Добрая рэч!

Марыя Осіпаўна пазірала на гэтых сімпатычных, мілых дзяўчынак і думала, што, магчыма, праз колькі год нехта з іх, а мо' і абедзве яны прыйдуць сюды ўжо даяркамі, маладымі гаспадынямі фермы. Гэта будзе яшчэ адно пакаленне змагароў за будучыню. І, думаючы пра гэта, Марыя Осіпаўна адчувала сябе дужэйшай: справа, якой яна аддала ўсё сваё жыццё, заўсёды будзе ў надзейных руках.

Дзяўчаткі атрымалі малако і пайшлі, а іх вобразы доўга яшчэ стаялі ў вачах Марыі Осіпаўны.

Яна запісвала ў табель надоі кожнай даяркі. Жанчыны перакідваліся словамі, хваліліся, хто колькі надаіў, жартавалі, смяяліся. Нарэшце, даяркі разыйшліся.

Кавалёва адправіла малако, яшчэ раз прабегла вачыма табель надояў. Тацяна Васількова, Аляксандра Лукомская, Алена Чыжова, Тамара Крываногава, Аляксандра Грамыка... Цудоўныя, працавітыя жанчыны. Ну, не ўсе яны надойваюць малака столькі, як Тацяна, але таксама стараюцца, працуюць сумленна.

Марыя Осіпаўна выйшла на двор.

Ярка свяціла сонца. У блакітным бязвоблачным небе віселі, як званочкі, жаўранкі. Яны спявалі пра вясну. Яркая зеляніна руні на палетках непадалёк за фермай аж рэзала вочы. Шмат непаўторнага харaства ў веснавой прыродзе! Марыя Осіпаўна глядзела на гэтае харaство, а думала пра сваіх даярак, пра добрых, слаўных людзей, пра тых, чыімі рукамі ствараюцца багацці. Ёй радасна было думаць, што чалавек — краса зямлі.

Гомельскі раён.

# НАВІНЫ КІНО ЗА РУБЯЖОМ

## ФРАНЦЫЯ

Фільм пра жыццё французскай раманісткі Жорж Занд мае намер паставіць рэжысёр Клод Шаброль. Сцэнарый напісан вядомай пісьменніцай Францыуазай Саган.

* * *

Фірма «Алькан», якая паставіла сумесна з савецкімі кінематаграфістамі фільм «Нармандыя—Нёман», рыхтуе здымкі карціны пра выдатнага танцора XIX стагоддзя Марыуса Пеціпа, па паходжанню француза, які шмат год правёў у Расіі ў якасці балетмайстра.

## ІТАЛІЯ

Сучасны кінаварыянт навел Джавані Бакача пад назвай «Бакача, 1961 год» выйдзе ў Італіі сёлета. Фільм будзе складацца з пяці самастойных навел, кожную з якіх здымаюць выдатныя рэжысёры (Вісканці, Антаніяні, Фелліні, Дэ Сіка і Манічэлі). На галоўныя жаночыя ролі запрошаны французская кіназорка Брыджыт Бардо і італьянка Сафія Ларэн.

## ЗША

Рэжысёру італьянскага антыфашысцкага фільма «Капо», удастоенага прэміі «Оскара», Джыло Понтэкарво адмоўлена ў амерыканскай візе на падставе славутага закона Макарці, які забараняе ўезд у краіну іншаземцаў — камуністаў ці спачуваючых камуністычнай партыі.

* * *

Каляровы шырокаэкранны фільм «Цудоўны свет братоў Грым» здымае на студыі «Метро-Голдзвін-Майер» рэжысёр Джордж Пэл.

## БАЛГАРЫЯ

Пераадоленне індывідуалістычнай псіхалогіі маладых будаўнікоў новага грамадства — тэма фільма «Двое пад небам», які выпускаецца Сафійскай кінастудыяй. Аўтар сцэнарыя Анджэл Вагенштайн, вядомы нашаму гледачу па фільму «Зоркі» (вытворчасці Балгарыі — ГДР).

## ПОЛЬШЧА

Драматург Тадэуш Канвіцкі і рэжысёр Ежы Каваляровіч закончылі работу над сцэнарыем па раману Баляслава Пруса «Фараон». Фільм будзе ставіць Ежы Каваляровіч, аўтар карцін «Пад фрыгійскай зоркай» і «Дарогі жыцця», якія дэманстраваліся на нашых экранах.

**І. ГІНЗБУРГ.**

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00269

Друкарня імя Сталіна.